АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

1–7 КАСТРЫЧНІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№40 (232)

АШМЯНЫ

## «Эліт–клуб» па–ашмянску

У горадзе нядаўна нарадзілася новая грамадская арганізацыя "Асацыяцыя маладых навукоўцаў Ашмяншчыны "Эліт–клуб".

У яе склад увайшлі прадстаўнікі маладзёжных арганізацый з "Грамадзянскага форуму" і недзяржаўнага грамадскага цэнтра сучаснага мастацтва Заходняй Беларусі. Нованароджаная арганізацыя пакуль не зарэгістраваная, а сваю дзейнасць яна маркуе прысвяціць рэалізацыі адукацыйных праграм.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ

## Чакайце навагоднія віншаванні

На Мядзельшчыне 46 вёсак не маюць тэлефоннай сувязі. Але неўзабаве мара многіх пра "нітачку сувязі" са светам мусіць збыцца.

Вакольныя вёскі Чараўкоўскай АТС – Целякі, Брылі, Логавіны, Пасынкі, Слукі, Скары – атрымалі за кошт пашырэння існуючай станцыі 50 новых нумароў. Праўда, тэлефонны кабель будзе пракладзены за грошы будучых абанентаў. Абыдзецца гэта не танна, таму тэлефоны атрымаюць тыя, хто зможа заплаціць. І ужо на Новы год шчаслівыя змогуць павіншаваць сваіх родных з новага тэлефона.

*Злата ГУРЫНОВІЧ.*

СМАРГОНЬ

## Калгас спансіруе камунальнікаў

У сувязі з тым, што цэнтральная сядзіба калгаса імя Калініна перамясцілася нядаўна ў вёску Асінаўшчына, на былой сядзібе ў вёсцы Карані засталася без нагляду майстэрня.

Калгас прапанаваў, а райвыканком зацвердзіў просьбу вяскоўцаў аб перадачы механічнай майстэрні на безвыплатнай аснове жыллёва–камунальнай гаспадарцы.

Такім чынам, чацверты ЖЭС Смаргоні будзе мець тут добрую матэрыяльна–тэхнічную базу.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

## Расціце – і вас павіншуюць

Сёння – у дзень пажылога чалавека – атрымаюць віншаванні 99-гадовая **Марыя Сівіцкая**, 97-гадовая **Ганна Андрушкевіч** і яшчэ 28 пенсіянераў ва ўзросце ад 90 да 100. 31 – ва ўзросце 80 гадоў.

Віншаванні дашле аддзел сацыяльнай дапамогі на даму, які, да таго ж, арганізуе святочныя мерапрыемствы для пажылых людзей у Мядзеле, Крывічах, Свіры.

Райвыканком выдзяліў на правядзенне свята 30 мільёнаў рублёў. А ў Княгініне і Будславе свята рыхтуюць самі сацработнікі з дапамогай мясцовых клубаў.

*Злата ГУРЫНОВІЧ.*

АСТРАВЕЦ

## Што добра для літоўцаў, тое кепска для бюджэту

Ад сённяшняга дня на мытных і пагранічных пастах "Катлоўка" і "Лоша" часова прыпынены мясцовы збор з замежных уладальнікаў аўто, якія перасякалі беларуска-літоўскую мяжу ў гэтых пунктах. Падобны крок мясцовы ўлады зрабілі ў выкананне ўказа "Аб упарадкаванні збірання збораў за праезд аўтатранспартных сродкаў па тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Што тычыцца літоўцаў, то для іх гэта добрая навіна. Цяпер, калі яны прыязджаюць у наш рэгіён па бензін, гарэлку, прадукты харчавання ці проста па справах, то не будуць "развітвацца" з 5 доларамі, якія для іх таксама не лішнія. А вось мясцовы бюджэт, як звычайна, акажацца ў пройгрышы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Бясспрэчны лідэр

Наўрад ці ў хуткім часе палепшыцца стан спраў на ВА "Электрамодуль".

Прадпрыемства з адрывам у 24 мільярды рублёў абганяе самага блізкага пераследніка па падатковых даўгах. На сёння запазычанасць "Электрамодуля" перад бюджэтам складае 33 мільярды.

*Аддзел інфармацыі.*



# Маньяк зноў на паляванні

*Наш рэгіён у шоку. "Паляванні" маньяка (маньякаў) са шпрыцам у руках на маленькіх дзяўчат працягваюцца.*

Бацькі было ўздыхнулі, калі скончылася лета і дзіцячыя летнікі параз"ехаліся. Але нелюдзь знаходзіць новыя пункты ў сваіх маршрутах. Праваахоўныя органы ў пошуках. Але аб выніках гэтых пошукаў гаварыць не даводзіцца, пакуль карта злачынстваў папаўняецца.

У ноч з 22 на 23 верасня маньяк аб'явіўся ў адукацыйна–аздараўленчым комплексе "Надзея – XXI стагоддзе", што пад Будзішчамі. Невядомы прабраўся ў спальны корпус, прадставіўся ўрачом і зрабіў дзяўчынцы ін'екцыю.

Раніцай 10–гадовую магілёўчанку даставілі ў аддзяленне рэанімацыі. У яе быў вельмі нізкі ціск, санлівасць. Школьніца праспала запар 20 гадзін. Біяхімічны аналіз паказаў у крыві наяўнасць невялікай дозы клафеліну. Дакладна ж сказаць, якую вадкасць маньяк уводзіў, немагчыма.

Аздараўленчы комплекс пад Будзішчамі працуе круглы год. Дзеці з забруджаных радыяцыяй тэрыторый, асабліва з Магілёўшчыны і Гомельшчыны, прыязджаюць цэлымі класамі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*




Нагадаем, з лета гэта ўжо шостае паспяховае паляванне маньяка. Усё той жа почырк: пад выглядам урача ён угаворвае дзяўчынку на прышчэпку. Раней злачынца (злачынцы!) наведаў "Івалгу", "Брыганціну" на Маладзечаншчыне, "Дружбу", "Мару" на Валожыншчыне, летнік ля райцэнтра Узда (на карце адсутнічае).

ЮБІЛЕІ

# «Маладзечанскай газеце» – 60



Цяперашні калектыў «Маладзечанскай газеты»

*Верхні рад:* Валерый Маркелаў, Эліна Платановіч, Андрэй Каскін, Галіна Сухоцкая, Вячаслаў Табулін, Тацццяна Каленік, Галіна Лазоўская, Іна Кандаурава, Вольга Кажамякіна.
*Ніжні рад:* Анжаліка Крупянькова, Лілія Ліпніцкая, Аляксандр Хазянін, Валянцін Ліпніцкі, Людміла Табуліна, Ала Калыска.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Віншуем сваіх калег з юбілеем газеты, першы нумар якой выйшаў у далёкім верасні 1939 года. На працягу гэтага часу «Чырвоны сцяг», «Сцяг кастрычніка», «Святло камунізму», а цяпер – «Маладзечанская газета» нязменна была ў цэнтры жыцця Маладзечна і раёна. Перажывала з жыхарамі Маладзечаншчыны і радасныя, і смутныя дні. І заўсёды заставалася вернай чытачу. Жадаем сваім калегам вострага пяра, аптымізму, веры ў будучае, здароўя і дабрабыту ў сем'ях! Няхай поспех спадарожнічае «Маладзечанскай газеце» заўсёды і ва ўсім!

*Калектыў «Рэгіянальнай газеты», 1 кастрычніка 1999 года, Маладзечна.*

*КАЛЕГІ*

# «Маладзечанскай газеце» – 60

*МАЛАДЗЕЧНА. У верасні кожны можа адшукаць свята на свой густ. Бабулька прыйдзе да царквы на свята Багародзіцы, заўзятар беларускай гісторыі адсвяткуе перамогу ў бітве пад Оршай, прыхільнік улады Саветаў з гонарам, роўным шасцідзесяці гадам, будзе распавядаць пра ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. А ў жыхароў Маладзечаншчыны на адно свята сёлета больш: «Маладзечанская газета» святкуе сваё шасцідзесяцігоддзе.*

Дарэчы, гэтая дата напрамую звязаная з уз'яднаннем Беларусі, калі літаральна ў некалькі дзён быў наладжаны выпуск патрэбнай Саветам газеты. Безумоўна, яна не магла тады мець назву, не скіраваную на прапаганду ідэй камунізму, адсюль і "Чырвоны сцяг". Тэмы – светлая будучыня і сельская гаспадарка, падчас вайны 1941-1945 г. г. – заклікі да перамогі.

У 1957 годзе газета атрымала новую назву – "Сцяг Кастрычніка". Дыфірамбы пяюць ужо не І. Сталіну, а рупліўцу "зялёнай рэвалюцыі" М. Хрушчову. Расказваюць пра памкненні моладзі ехаць на вялікія будоўлі. Праз пяць год заззяла новая назва – "Святло камунізму". Яна ярка асвяціла выкананне рашэнняў з'ездаў партыі.

Сёння нас вітае добра знаёмая "Маладзечанская газета". Яе чакаюць, каб даведацца пра знаёмую няўрымслівасць **Анжалікі Крупяньковай** у так патрэбных "Пытаннях па серадах", каб адчуць апантанасць, крыху стомленасць, але заўзятасць у матэрыялах **Валянціна Ліпніцкага**, абмеркаваць з ім футбольныя навіны. Чакаюць, каб адшукаць сваё імя ў рэпартажах-каментарыях **Валерыя Маркелава**, каб завесці размову са знаўцам гарадскога жыцця **Інай Кандауравай**. А даўняя студэнцкая сяброўка кажа пра **Вольгу Кажамякіну**: яна мусіць зазірнуць чалавеку ў вочы, каб зразумець яго. Гэта сапраўды так, нездарма калегі назвалі яе душой рэдакцыі. З адкрытасцю павітае вас **Людміла Табуліна**, якая пры прыёме аб'яў за дзень сустракае і гора, і радасць кожнага наведвальніка.

– Цёплыя, шчырыя адносіны пануюць у рэдакцыі, – расказвае рэдактар газеты **Аляксандр Хазянін**. – Я сам падбіраў гэты калектыў, запрашаў маладых максімалістаў з факультэта журналістыкі, даючы ім дарогу ў свет. Не забываемся мы і на нашых ветэранаў, дасылаем на святы віншаванні, добра сустрэлі сёлетніх практыкантаў. Я – дырыжор гэтага аркестра, і ён спраўна грае пад маім кіраўніцтвам.

Застаецца толькі пажадаць поспехаў дасведчанаму калектыву: мацнейце, расціце, здзіўляйце людзей.

*Злата ГУРЫНОВІЧ,*
*студэнтка факультэта журналістыкі БДУ.*

*ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА*



# Засталася на матчынай радзіме

Сорак пяць год стажу ў школе ў **Антаніны Гарчаковай**.

– Не таго стажу, дзе лічыцца вучоба, маё знаходжанне ў канцлагеры, а іменна работы ў школе, – тлумачыць Антаніна Іванаўна.

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры ўжо і не меркавала ісці працаваць сёлета, а вось запрасілі – і прыйшла.

Антаніна Іванаўна нарадзілася ў Расіі – ля Невеля. Бацька рускі, маці Ефрасіння з Беларусі. Трапіла ў дзіцячым узросце, вайной, у канцлагер ў Віцебску. Пасля вызвалення засталася на радзіме мамы. Мабыць, палюбіла беларушчыну, калі прыйшла ўрэшце беларусістам у школу. Працавала настаўніцай, кіравала калектывам СШ №3 Вілейкі. Тым часам выгадавала сына і дачку. Цяпер дапамагае гадаваць унукаў. І не пакідае школы.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

*ХРОНІКА*

# Валожыншчына раззбройваецца

ВАЛОЖЫН. Нядаўна жыхар вёскі Брылькі добраахвотна выдаў супрацоўнікам міліцыі самаробны пісталет. Зброю вясковец сам змайстраваў і захоўваў дома. Не інакш, як падзеі на Каўказе падштурхнулі да такіх крокаў.

А каля царквы ў Лоску знайшлі снарад другой сусветнай вайны. Яшчэ праз 4 дні раніцой амаль такі ж снарад "вырас" ля вёскі Вароні.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*ВАДА*

## Смаргонь хоча піць

СМАРГОНЬ. Райвыканком зацвердзіў мэтавую праграму паляпшэння забеспячэння насельніцтва якаснай пітной вадой.

Цяпер на тэрыторыі раёна ёсць 212 артэзіянскіх свідравін, 15 з якіх выкарыстоўваецца для патрэб горада. Іх праектная магутнасць складае 28,3 тысячы кубічных метраў вады, хаця фактычнае спажыванне ў Смаргоні складае толькі 14 тысяч кубаметраў. Год з дзесяць ужо дзейнічае станцыя абезжалезвання, тым не менш на парадак дня паўстае фтарыраванне пітной вады.

*Павел МАКЛЮК.*



*НЕТЫПОВАЕ*

# Ксеракопія з дапамогай ДАІ

СМАРГОНЬ. Тыдзень таму быў у Смаргоні. Тэрмінова спатрэбілася зрабіць ксеракопію. Пад'ехаў да пошты, дзе месціцца гэтая служба, і толькі хацеў выйсці з машыны, як пад'ехала машына ДАІ. З яе выйшлі капітан і старшына.

– Прабачце, але стаянка тут забароненая. Трэба заплаціць штраф, – звярнуўся да мяне старшына.

Як мог, патлумачыў, што сам з Вілейкі, кепска арыентуюся ў горадзе, а тут тэрмінова спатрэбілася зрабіць копію з дакумента. Дзіва, але супрацоўнікі ДАІ не аштрафавалі і нават паказалі, дзе месціцца ксеракопія. На жаль, на пошце яна не працавала. Тады яны падказалі іншае месца – у бібліятэцы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*ЗЕМЛЯКІ*

# Вілейская «дыяспара» блаславіла адкрыць на радзіме тэлебачанне

*ВІЛЕЙКА. 4 месяцы ад пачатку года гараджане пра мясцовыя падзеі маглі даведвацца таксама праз сваё тэлебачанне. Дзяржаўнае культурна—асветніцкае малое прадпрыемства "Кабельнае ТУ" паказвала гледачам не толькі відэафільмы.*

Штотыдзень выходзілі "Навіны" – у якасці дыктара спрабавала сябе Аксана Барадоўская. Былі "Сустрэчы па пятніцах" з былым дырэктарам СШ №3 Антанінай Гарчаковай, мастаком Эдуардам Мацюшонкам, спартыўныя рэпартажы, перадачы з месца здарэнняў (пахаванне дзетак з вёскі Жары, якія загінулі на пажары).

Парадаксальна, але пры ўсім тым мала хто ведае Генадзя Прылепскага, арганізатара і непасрэднага ўдзельніка ўсёй гэтай творчасці, "вілейчаніна калымскага паходжання". Так жартам называюць яго сябры.

– Па жыцці мне ўсё цікава, – гаворыць Генадзь, – амаль не існуе тых спецыяльнасцяў, якімі б я не авалодаў. Аднак я не "лятун". Засвоіць нешта новае – хутчэй, хобі.

Генадзь Прылепскі скончыў у Вілейцы СШ №2, служыў кантрактнікам–мічманам у Шылавічах. Працаваў на Поўначы. 14 гадоў на абласным Магаданскім тэлебачанні і на сваім, кабельным, у пасёлку Ягаднае на Калыме. Цяпер "асеў" у роднай Вілейцы.

– Досвед тэлевізійшчыка хачу выкарыстаць у Вілейцы, – гаворыць Генадзь, – з першага заходу, на жаль, не атрымалася "раскруціцца". Але надзею не губляю. Ды і вілейская дыяспара на Калыме блаславіла на гэтую справу. Толькі ў нашым пасёлку жывуць 6 сем'яў з Вілейкі: Субачы, Коршуны, Панамаровы... Калі нехта з іх вяртаўся на Поўнач з адпачынку, не адзін вечар усе распытвалі, як там дома. А наогул, віляйчан на Калыме шмат.

**– Дзе яны сябе знайшлі, кім працуюць?**

– І настаўнікамі, і інжынерамі, і, натуральна, работнікамі залатых прыіскаў. Мы рабілі перадачу пра нашую зямлячку. На капальні яна працавала з вадзяным маніторам і ад яе майстэрства залежала 80% поспеху. Манітор размывае пясок, камяні. Ціск велізарнейшы.



*Генадзь Прылепскі ў Вілейцы.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

**– Гавораць, на прыісках працуюць людзі "маральна ўстойлівыя". Бо ад суседства з золатам лёгка зрабіцца псіхічна хворым.**

– Лухта. Праўда, неадэкватныя паводзіны назіралі, калі здымалі на камеру аўкцыён залатаносных ручаёў.

**– Калыма для пэўнай катэгорыі – этапы, калючы дрот, зоны. Тут таксама сустракалі землякоў?**

– Не сустракаў. Амаль усе тамтэйшыя пасёлкі будавалі "зэкі" яшчэ да вайны. А начальства прыдумвала назвы. Можа, знарок ласкавыя і салодкія: "Ягадны", лагер "Серпанцінка". У ім шмат беларусаў знішчана. Ахвяраў – тысячы. Ля лагера ідзе вузкі лог. На схілах сопак "зэкі" капалі сабе магілы – даўжэзную траншэю. Ля яе іх выстройвалі і касілі з аўтаматаў. Другая партыя расстрэльных наступную траншэю капала літаральна ў 2–х метрах і адначасова засыпала сваіх забітых таварышаў. Пра гэтыя жудасныя часы мы рабілі цыкл перадач. Цяжкавата нават успамінаць.

**– Хто больш тэлегенічныя, жыхары Поўначы ці Вілейкі?**

– Па адкрытасці, дабрыні яны аднолькавыя. Напрыклад, у вілейскіх "Сустрэчах па пятніцах" і ў паўночнай "Гасцёўні" людзі да сустэчы рыхтавалі стол, пірагі пяклі.

**– Што ў Вілейцы вы здымалі, а гледачы так і не ўбачылі?**

– Частку школьнага фестывалю мастацкай самадзейнасці, прысвечанага 400–годдзю горада, успаміны ветэранаў другой сусветнай вайны. Толькі распачалі здымаць цыкл перадач "Мой горад заўжды малады".

**– Райцэнтр Ягадны па колькасці насельніцтва блізкі да Вілейкі. Ці можна правесці нейкую паралель па фінансаванні TV?**

– У Ягадным на момант майго ад'езду толькі камерцыйных магазінаў было 45. Рэкламай зараблялі грошы. У Вілейцы сітуацыя больш сціплая.

**– Пра вашу сям'ю гавораць шмат цікавага. Вам 53 гады, а малодшай дачцэ Святлане – 3. Калі жонка пакідае вам запіску, абавязкова звяртаецца "любы".**

– У мяне другі шлюб. А, наогул, што ў гэтым незвычайнага?

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Ірыны Буцер, Маладзечна



**Па гарызанталях:** 1. Транспартны сродак. 8. Дзікая свіння. 10. Паліп. 11. Вольны пасяленец на Дану, Кубані. 12. Насякомае–крывасмок. 13. Травяністая балотная расліна. 14. Араматычная смала. 17. Жвачная жывёліна. 18. Тое, што прыбаўляецца да чаго–небудзь. 19. Геаметрычная фігура. 20. Чараўнік. 23. Выбуховае рэчыва. 26. Пераносная радыёстанцыя. 28. Адкідная накрыўка механізмаў. 31. Свяшчэнная кніга мусульман. 32. Радыёлакатар. 33. Вострае адчуванне патрэбы ў ежы. 34. Прыбытак, выгада. 35. Мусульманскі манах. 36. Невялікі літаратурны твор.

**Па вертыкалях:** 1. Пасудзіна для віна. 2. Буйны населены пункт. 3. Месца для гандлю. 4. Пастанова дзяржаўнай улады. 6. Падвясная сетка для сну. 7. Заданне для ваеннаслужачых. 8. Задняя частка шыі ў чалавека. 9. Багацей. 15. Настаўленне. 16. Доўгі земляны насып. 17. Белы грыб. 21. Верхняя частка будынка. 22. Устойлівыя няправільнасці ў будове сэрца. 23. Грашовая адзінка Югаславіі. 24. Прамы ўдар самалёта. 25. Прыемны пах. 26. Самец–алень. 27. Няходжаная снежная прастора. 29. Буралом. 30. Сума збораў, аплаты.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №39.*

**Па гарызанталях:** 1. Пліса. 2. Зефір. 9. Ніагара. 10. Зелле. 11. Стрыж. 12. Рэастат. 13. Рамбо. 16. Аграм. 19. Лідэрства. 23. Какаду. 24. Ранжыр. 25. Трона. 26. Кудаба. 28. Варвар. 30. Даўгінава. 33. Цясак. 35. Архар. 38. Астатак. 39. Тытул. 40. Адрас. 41. Еўрыпід. 42. "Афоня". 43. Акаба.

**Па вертыкалях:** 1. Пазёр. 2. Іслам. 3. Анероід. 4. Каратэ. 5. Палтус. 6. Застава. 7. Фурор. 8. Рэжым. 14. Арагуая. 15. Блакада. 17. Ганарар. 18. Арысаба. 20. Дутаў. 21. Рыоні. 22. Трава. 27. Бакалея. 29. Авакада. 31. Гітара. 32. Натапа. 33. Цётка. 34. Сітро. 36. Хорда. 37. Раска.

КАЛЯНДАР САДАВОДА–АГАРОДНІКА

# Кастрычнік: у гародзе, садзе, кветніку; вузельчыкі на памяць

Калі знімаеце ўраджай, не выкопвайце ўсю моркву, пакіньце частку караняплодаў на градцы. Пасля замаразкаў акуратна зрэжце бацвінне. Градку закрыйце апалым лісцем або саломай слоем 15–20 см, а зверху плёнкай. У суровыя зімы падсыпце снег.

Ранняй вясной можна выкапваць свежыя смачныя караняплоды.

***

У канцы кастрычніка–пачатку лістапада перад наступленнем устойлівых маразоў пры тэмпературы глебы 2–3° цеплыні ў раней падрыхтаваныя градкі высейце моркву, пятрушку, кроп, сельдэрэй, пастарнак, буракі, радыс, салату.

Пры больш ранняй сяўбе насенне прарасце і ўсходы з надыходам маразоў загінуць.

***

Для сяўбы адбярыце буйное паўнаважкае насенне. Нельга высяваць яго замочаным, а тым больш, прарослым.

Глыбіня задзелкі – на 0,5 см большая, чым пры веснавой сяўбе.

На наступны год насенне ўзыдзе хутчэй і дасць ураджай на 10–15 дзён раней, чым пры звычайнай веснавой сяўбе.

***

За два тыдні да ўстойлівага пахаладання або на 10–15 дзён раней падзімняй сяўбы зялёнай гародніны і караняплодаў пасадзіце пад зіму цыбулю на пяро.

Цыбуліны саджайце на глыбіню 3–5 см амаль ушчыльную адна да адной. Зверху прысыпце на 2–3 см торфам або перагноем. Пры замаразках падсыпце яшчэ 6–8 см перагною.

Пазней (у канцы сакавіка–пачатку красавіка) пачысціце пасадкі ад снегу і адталага перагною і накрыйце плёнкай. Ураджай можна будзе збіраць у канцы красавіка–пачатку мая.

## Маліна чырвоная

У канцы верасня можна прыгінаць сцябліны малазімастойкіх сартоў – рыхтаваць да зімы. У гэты час яны дастаткова гнуткія і паломаў будзе менш. Лісты абрываць не трэба. Прыгінайце сцябліны як мага ніжэй, нахіляйце іх насустрач адна адной, пераплятайце паміж сабой і звязвайце. Можна ўсе парасткі нахіліць у адным накірунку і прывязаць да аснавання суседняга куста.

У зімастойкіх сартоў ўсе сцябліны абавязкова прывяжыце шчыльным пучком да жардзіны. Апырсніце расліны 5%–ным растворам мачавіны.

Калі глеба ўтрымліваецца без мульчы, дробна перакапайце яе ля кустоў, падрыхліце. Перагной, які служыў мульчай, перакапайце разам з глебай, затым унясіце новы слой перагною, 5–10 см. Саломістую мульчу зграбіце і аднясіце ў штабель, дзе рыхтуецца перагной. Глебу паматычце і раскладзіце новую салому слоем да 20 см.

## Вішня

Бярыцеся за ачыстку ствалоў і асноўных каркасных галін дрэў ад адмерлай кары, імху, лішайнікаў. Зачышчаныя нажом раны прамыйце 1–2%–ным медным (100–200 г на 10 л вады) або 2–3%–ным жалезным купарвасам (200–300 г на 10 л вады), абмажце садовым варам. Калі ёсць дуплы, заштукуйце іх цэментам. Ствалы і аснаванні каркасных галін пабяліце вапнавым растворам.

Для аховы маладых вішань ад зайцаў і мышэй абвяжыце ствалы яловым лапнікам – верхалінкамі ўніз.

Каб дрэвы лепш перазімавалі, акучце іх глебай на вышыню 10–12 см. Апалае лісце пазграбайце граблямі, вынесіце за межы ўчастка і спаліце.

ПРЫРОДА І МЫ

# З дыхлафосам на мутантаў

Неяк давялося мне браць удзел у разборцы закінутага павільёна. Калі пачалі аддзіраць дошкі са столі, пачулася моцнае гудзенне, а потым з праёма пачалі пікіраваць, быццам ваенныя знішчальнікі, пчолы. Але якіх памераў! Амаль з невялікага вераб'я!

Шасцёра мужчын у адну секунду вылецелі з будынка, а адзін, не надта спартыўнага складу, нават абагнаў астатніх і зачыніўся ў машыне.

Пачаліся меркаванні. Нехта выказаў здагадку, што гэта пчолы–мутанты, іншы – "пчолы–забойцы". Але я, як біёлаг–аматар, адразу адкінуў фантастычна–народныя версіі. Гэта былі шэршні (сям'я складкаватакрылых, ці сапраўдных вос).

Пры слове "шэршань" рабочыя наадрэз адмовіліся працаваць. Адзін успомніў, як яго швагру ўкусілі ўсяго дзве пчалы, і таго ледзь выратавала "хуткая", другі – што тры ўкусы смяротна небяспечныя нават для каня.

Рабіць было няма чаго, і я рушыў па спецэкіпіроўку, спецсродкі. Перад аперацыяй па знішчэнні шэршняў я выглядаў так: маска для падводнага плавання і бейсболка, брызентавы касцюм зваршчыка, спяцоўкі і немаленькі балончык дыхлафосу. "Птичку жалко", але ж трэба працаваць.

Калі адарваў дошку, то ўбачыў гняздо з шэрай папяровай масы памерам з баскетбольны мяч. Накіраваў струмень дыхлафосу на ўваход у гняздо. Усчалося такое гудзенне, нібы недалёка працаваў электрычны трансфарматар. З увахода пачалі вылятаць шэршні. Мне ўжо забалеў палец, які націскаў на распыляльнік, а шэршні са страшэнным гулам кружыліся вакол гнязда і час ад часу пікіравалі на мяне. Калі траплялі ў шкло маскі, здавалася, што яно трэсне.

Напрыканцы, калі дыхлафос амаль скончыўся, шэршні пачалі падаць. Калі ўпаў апошні, я скінуў гняздо. Яго пабудова нагадвала чатырохпавярховы дом. На кожным паверсе былі лічынкі featured рознага ўзросту. Быццам яслі, садок, школа, інстытут. Калі з шэршнямі разабраліся, пачалі бурыць столь. Усе дошкі былі пакрытыя тысячамі празрыстых крыльцаў насякомых. Пазней ужо я даведаўся, што сваіх лічынак шэршні кормяць пчоламі і восамі.

Такім чынам, хоць я і знішчыў гняздо шэршняў, але выратаваў, можа, цэлы пчаліны домік.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ПРОСТА АНЕКДОТ

У «круты» кабак заходзіць мужык і гаворыць бармену:

– Мне 100 грамаў гарэлкі.

Бармен налівае, падае. Мужык дастае з кішэні мензурку і пасведчанне:

– Кантрольная закупка. 75 грамаў! Штраф $50.

Наступны вечар тыя ж асобы. Мужык зноў вымярае мензуркай і здымае «паўста» штрафу. Затым пытаецца бармена:

– Слухай, ты ж мяне пазнаў, чаму ўсё адно не даліў?

– Да мне прасцей табе «паўста» аддаць, чым руку збіваць з-за такіх, як ты...

ГАРАСКОП 4 – 10 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Асаблівай увагі запатрабуюць у гэты перыяд дзеці і блізкія. У мужчын магчыма поўнае расчараванне ў шлюбным партнёры.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Тыдзень навінаў: яны будуць сыпацца на вас, як з каляднага меха. Даўні праект мае ўсе шанцы зварухнуцца з мёртвай кропкі.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Усе вашыя жаданні на гэтым тыдні дзіўным чынам будуць здзяйсняцца. Калі вы пакуль не вызначылі, што ж вы хочаце, прыдумайце.

**РАК (22.06–23.07)**
Грошы паступяць з самай нечаканай крыніцы. Наперадзе дзелавая паездка, у якой будуць вырашаныя не толькі вытворчыя пытанні. Магчымае цікавае і перспектыўнае ў асабістым плане знаёмства.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Работы на вас зваліцца воз і маленькая каляска. Давядзецца закінуць усе хатнія справы і асабістае жыццё.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Атрыманне грошай – хутчэй за ўсё, запланаванае. А вось сюрпрыз, які вам рыхтуюць сябры і радня, нечаканы.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Вы апынецеся ў коле блізкіх сяброў на якім–небудзь пікніку ці рыбалцы. Не адмаўляйцеся ад гэтай магчымасці, тым больш, што ў вас ёсць шанец з абсалютна нечаканага боку ўбачыць свайго партнёра.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Відавочна, вы ператаміліся і самае лепшае – не праяўляць гераізм на рабоце, а наладзіць сабе невялікі адпачынак. Жанчын чакаеракавая сустрэча.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Вы будзеце энергічны і прадпрымальны ўсе гэтыя дні. Скарыстайце момант пад'ёму і зрабіце ўсё, што адкладалі «на потым».

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Абвастрэнне хранічных недамаганняў, нелады з дзелавымі партнёрамі, неатрыманне чакаемага прыбытку. Але ўсё гэта не больш, як на адзін–два тыдні.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Пахмурныя восеньскія дні прынясуць вам немала радасці і задавальнення.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Давядзецца нямала трывожыцца і хвалявацца, але старанна хаваць свае пачуцці.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Два «дабівальныя» пытанні

Гісторыя гэтая амаль старажытная – здарылася яна год дваццаць таму, калі яшчэ быў студэнтам. Дадому і назад даводзілася ездзіць больш як за 300 кіламетраў на міжгароднім аўтобусе.

Аднаго разу, як звычайна, еду начным рэйсам (тады яшчэ былі такія – увечары сеў, на раніцу аўтобус у Мінску) – свабодных месцаў няма, некалькі чалавек нават стаяць у салоне. Сярод іх прысутнічае мужычок вельмі і вельмі нецвярозы. Праз паўгадзіны пасля адпраўлення ён пытаецца ў мяне:

– А куды мы едзем?

Пасажыры яшчэ не паспелі пазасынаць, таму ажывіліся, многія дружна засмяяліся ўголас. Пад гэты рогат тлумачу, што едзем у Мінск.

Той некаторы час засвойвае атрыманую інфармацыю, а затым дабівае салон наступным пытаннем (хто сядзеў бліжэй – стагнаў ад смеху). Мужычок спытаўся:

– А адкуль?

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **ВЯСЕЛЬНЫЯ ЎБОРЫ:** модныя, элегантныя, навейшыя фасоны. Пракат, продаж. Вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ, ВЯЧЭРНІЯ ІМПАРТНЫЯ ЎБОРЫ. ВЯЛІКІ ВЫБАР. Т. у Маладзечне 50825.**
- Вас запрашае салон для маладых "Раксалана". Гасцініца "Маладзечна", 1 паверх. Т. у Маладзечне 71676, 51070.
- Музычнае суправаджэнне сямейных урачыстасцяў. Т. у Маладзечне 35203.
- Музычнае суправаджэнне веселляў. Т. у Маладзечне 77428, 60427.
- **МІЛЫЯ НЯВЕСТЫ!** Чароўныя ўборы і аксесуары да іх чакаюць вас. Т. у Маладзечне 64110, 26308.
- Прыгожая вясельная сукенка, прадам або здам напракат. Т. у Маладзечне 32646. Здам напракат вясельны ўбор. Т. у Маладзечне 52848.

## ІНШАЕ

- **ШЛІФОЎКА ПАДЛОГІ. Т. у Маладзечне 30077, 39678.**
- Вокны і дзверы з ПВХ, драўніны, металічныя, міжпакаёвыя. Хутка, якасна, прафесійна, нядорага. Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Т. у Маладзечне 74957.

# РОЗНАЕ

## ПРАДАМ

### БУД. МАТЭРЫЯЛЫ

- Дзверы міжпакаёвыя (зала, кухня). Т. у Маладзечне 54467 (пасля 17⁰⁰).
- Дзверы металічныя, высокая якасць, вялікі выбар аддзелачных матэрыялаў. Т. у Маладзечне 74750.
- Вугалок алюмініевы, 45х45. Т. у Маладзечне 28396.
- **ПРАПІТКУ ДЛЯ ДРЭВА ЛЕСОЛ (СЛАВЕНІЯ), КОЛЕР ЛІСТОЎНІЦА; ЛАК ДЛЯ ДРЭВА (ГАЛАНДЫЯ). Т. у Валожыне 58277 (дам.).**

### ТВ, БЫТАВУЮ ТЭХНІКУ

- Маразільнік. Танна. Дастаўка. Т. у Маладзечне 53264.
- В/плэеры, тэлевізар, музычны цэнтр, в/камеру, в/касеты, б/у. Гарантыя і дастаўка. Т. у Маладзечне 50014.
- Электрапомпу Ручаёк. Т. у Маладзечне 33608.
- Новы маразільнік Атлант. Т. у Вілейцы 58436.
- Халадзільнік 2706, маразільнік 164. Т. у Маладзечне. 39264.
- Новы халадзільнік-маразільнік МХМ-161. Т. у Маладзечне 34089.
- Пральную машыну-аўтамат BOSH, б/у; новы электрычны воданагравальнік. Т. у Маладзечне 60082.
- Пліту Брэст, газавую, новую, 4-камф. Т. у Вілейцы 56221.

### МУЗІНСТРУМЕНТЫ

- Піяніна нядорага. Т. у Маладзечне 70255.
- Піяніна. Т. у Вілейцы 59298.
- Кампакт-дыскі "Дача ката Леапольда", "Diamond English" (2CO, англійская мова). Магчымы абмен гульні. Т. у Маладзечне 39482.

### МЭБЛЮ

- **НОВУЮ МЭБЛЮ, ЭЛЕКТРАВОДАНАГРАВАЛЬНІКІ.** Тавар сертыфікаваны. Т. у Вілейцы 56382.
- Новы набор мэблі для прыхожай Струмень. Т. у Маладзечне 37651.
- **НОВАЯ МЭБЛЯ З ДАСТАЎКАЙ.** Спальні, дзіцячыя гарнітуры, кухні, мяккія вуглы, секцыі Палессе 234, 234/01, 233, 207, 187. Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Т. у Маладзечне 52667.
- Новую секцыю Заслаўе, чырвоны шпон. Т. у Маладзечне 69755.
- Секцыю Рэста. Т. у Маладзечне 70960.
- Кухню Вязынка, ва ўпакоўцы, нядорага. Т. у Маладзечне 73600.

### ЖЫВЁЛУ

- Шчанят ньюфаўндленда (вадалаз). Т. у Маладзечне 36915.
- Шчанят усходне-еўрапейскай аўчаркі. Т. у Маладзечне 37044, 61945.
- Шчаня пекінеса. Т. у Смаргоні 21542, 51082.

### ІНШАЕ

- Жалюзі гарызантальныя, вертыкальныя. Выраб, устаноўка, абслугоўванне. Тэл./факс у Вілейцы 58939.
- Радыятары чыгунныя, новыя, 0,25 ЭКМ. Цана дагаворная. Т. у Маладзечне 52620, 64861, 53044.
- Бульбу, вялікая — 60 тыс./кг, дробная — 30 тыс./кг. Т. у Маладзечне 52929 (пасля 17⁰⁰).
- Сена, 3 тоны; вокны, 4 штукі; газавую ацяпляльную ўстаноўку. Т. у Маладзечне 71352, т. у Валожыне 33116 (в. Доры).
- Касавы апарат, беларускай вытворчасці, б/у, 190 у. а., торг. Т. у Маладзечне 62835.
- Кажух (дублёнку), жан., пам. 46-48. Т. у Маладзечне 73813.
- Саджанцы яблыні і чорных парэчак. Чысць, вул. Палявая, 23. Т. у Маладзечне 90344.

## КУПЛЮ

- Фірму, прадпрыемства без вялікіх запазычанасцяў, гатовую да работы. Разгледжу варыянты супрацоўніцтва. Т. у Мінску 784402 (з 8⁰⁰ да 19⁰⁰).
- Акустычную сістэму з узмацняльнікам, б/у. Т. у Маладзечне 69767.
- Зварачны паўаўтамат. Т. у Маладзечне 42679.
- Чарназём. Т. у Маладзечне 73813.
- Кампрэсар, 10-12 атмасфер, можна б/у. Т. у Маладзечне 64550.

## ЗГУБЛЕНА

- Згубленае пасведчанне інв. з дзяц. Ігнатовіча Віктара Уладзіміравіча (серыя 09 № 424169) лічыць несапраўдным.

## ІНШАЕ

- Пераклады з англійскай. Т. у Маладзечне 66767.
- Прадстаўлю вашы інтарэсы ў горадзе Калінінградзе. Т. у Маладзечне 67179.
- Англійская, нямецкая мовы: кантрольныя, урокі, кансультацыі. Т. у Маладзечне 32998.

## ШУКАЮ РАБОТУ

- Шукаю работу вадзіцеля легкавога аўтамабіля. Т. у Маладзечне 39251.
- Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў. Т. у Маладзечне 76721.



## СПРАВЫ ГРАШОВЫЯ

| 23 верасня 1999 г. | | 30 верасня 1999 г. | |
|---|---|---|---|
| 1. Курсы валют НБ РБ: | | 1. Курсы валют НБ РБ: | |
| Долар | 288000 | Долар | 290000 |
| Марка Герм | 154563,13 | Марка Герм | 156044,24 |
| Літ | 71989,20 | Літ | 72516,32 |
| Рас. руб. | 11380 | Рас. руб. | 11560 |
| Злоты | 70286,76 | Злоты | 70388,35 |
| ЕЎРА | 302299,20 | ЕЎРА | 305196,00 |
| 2. "Вулічныя" курсы куплі долараў: | 500000 – 520000 | 2. "Вулічныя" курсы куплі долараў: | 510000 – 540000 |



# ВІНШАВАНКІ

***Дарагія чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Віншаванкі звыш пятнаццаці слоў платныя. Мы можам размясціць партрэт таго, каго вы віншуеце, калі вы гэтага пажадаеце. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!***

Мілая Аленка Будзько, віншуем з днём нараджэння! Няхай здзейсняцца ўсе твае мары. *Уладзіслаў, Алеся, Янка.*

Дарагая **Жанна Шылко**! Віншуем з днём нараджэння!

Пусть будет радость и здоровье,
И пусть на все хватает сил,
И каждый день обычной жизни
Чтоб только радость приносил. *Таня, Дзіма.*

**Сегізмунд Міхайлавіч Купшта**! З днём нараджэння! Жадаем усмешак, жадаем сяброў, шчасця, здароўя, пяшчотных слоў. *Цэх 12, Спадарожнік.*

**Дарагой Алене Аляксандраўне!**

Вас мы ценим, любим, уважаем
За доброту и чуткость к нам.
От сердца искренне желаем
Долголетья и счастья Вам.

Віншуем сваю любую мамачку і жонку Алену Самуліс з днём нараджэння і 5-годдзем сумеснага жыцця. Няхай заўсёды зззяе сонейка кахання і згоды! *Муж Сяргей і сын Максім, якія цябе любяць.*

Віншую з 50-годдзем любую матулю **Валянціну Пятроўну Захарыч**. Жадаю шчасця, здароўя, доўгіх год жыцця. *Твая Наташа.*

Віншуем з Днём настаўніка **Ірыну Антонаўну Шурпік**!

Желаем радости в жизни,
Успехов в труде,
Счастья побольше, здоровья покрепче
И долгую-долгую жизнь на земле.
*Вучні 6 "В" класа СШ №9.*

**Паважаны Мікалай Цімафеевіч Баёў!**

Віншуем Вас з 60-годдзем. Жадаем здароўя, спартыўнага запалу!

*Трэнерскі калектыў і вучні Вілейскай ДЮСШ.*



Дарагую дачку і сястру **Валянціну Пятроўну Захарыч** віншуем з 50-годдзем! *Маці і сястра.*

Дарагая матуля **Валянціна Пятроўна Захарыч**! Віншуем цябе з юбілеем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці. *Сям'я Лютынскіх.*

Віншуем з Днём настаўніка **Тамару Міхайлаўну Ротміраву**!

Хай шчасце пануе ў вашым доме,
І радасць хай будзе ў Вас.
Здароўя моцнага, шчодрай долі
Хай Бог пасылае ў запас.
*Вучні 6 "В" класа СШ №9.*

Віншуем з Днём настаўніка **Алену Аляксандраўну Івашэвіч**!

Желаем Вам от всей души
Здоровья крепкого на годы.
И пусть обходят Вас невзгоды,
Пусть будет счастлива семья.
*Вучні 6 "В" класа СШ №9.*

З днём нараджэння віншуем урача Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Маргарыту Аляксандраўну Працкову**. Зычым здароўя, дабрабыту, кахання. Энергіі табе не займаць, удачы табе ў жыцці. *Сябры.*

**Людміле Леанідаўне Андрэевай**. Дарагая наша Людачка! Віншуем цябе з юбілеем. Жадаем шчасця, радасці, здароўя. Няхай твая прыгажосць будзе ўзнагароджаная надзейным і верным спадарожнікам твайго жыцця! ***Былыя калегі Фаіна Лінкевіч і Тамара Салгалава з аўтавакзала г. Маладзечна.***

Віншую сваіх любых бацькоў **Вікенція Адамавіча і Марыю Мікалаеўну Мошкаў** з днём нараджэння! Шчасця, здароўя. *Дачка Таццяна.*

**Дзмітрыю Лобану**. З днём нараджэння!

Жыві без суму, не хварэй.
Душой і сэрцам не старэй.
Удачы заўжды і ва ўсім.
*Сябры.*

**Тамары Іванаўне Новік**. З днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя без лекаў, дабра і спакою, доўгага веку. *Сяброўкі, цэх № 1.*

**Наталля Уладзіміраўна Сіняўская і ўвесь калектыў Бубнаўскай школы**! Віншую вас з Днём настаўніка. Жадаю моцнага здароўя, творчых поспехаў, добрага настрою на ўвесь год. ***З павагай З. В. Бязручка.***

Віншуем з днём нараджэння **Анатоля Грышкевіча**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім. ***Жонка, дочкі Юля, Каця.***

# ЗНАЁМСТВЫ

❤ Для сур'ёзных адносін пазнаёмлюся з мужчынам. Мне 48/68/69. Жыллём забяспечаная. Т. у Вілейцы 57665, Валянціна.

❤ Адзінокі мужчына жадае пазнаёміцца з жанчынай для стварэння сям'і: 46/178, без шк/зв. Маладзечна-3, д/з п/п 0400123.

❤ Тутэйшы беларус, які паспяхова працуе ў інтэлектуальным бізнесе, будзе рады пазнаёміцца з маладой жанчынай для ўтварэння сям'і. Пра сябе: 34 гады, 72/170, Вадалей, універсітэцкая адукацыя. Паспрабую адказаць на ўсе лісты з фота. 231000 Смаргонь, в/б 022553.

**КУПОН 40 для бясплатнай аб'явы**

Бясплатна змяшчаюцца аб'явы толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

Тэкст аб'явы:

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку):

